Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 25 Чэцьверг. 30-га верасьня, 1926 г. м Вільня Год I

# Бе[illegible]ускае Слова



Выхо[illegible] Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальн[illegible]орыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.-[illegible]—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno ul. Zakretowa 21.
Рэдакцыя адчынена ад 12—2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам—20 гр.
„ сярод тэксту —25 гр.
„ на апош. стар. —20 гр.
за радок нонпарэля.

## ЗАСЬЛЯПЕНЬНЕ.

У Заходняй Беларусі творыцца нябывалая рэч. Беларуская сялянская маса грамадою валіць у пралетарска-бальшавіцкую „Грамаду". Ідзе сьмела ў тую партыю, якую *гэткае жа* беларускае сялянства ў Усходняй Беларусі гоніць з вёскі і бье яе. Чаму гэта? Што і хто гэтаму вінен?

Скажам зусім шчыра і адкрыта, што гэткую прыемнасьць для сваей Польшчы зрабілі перад усім палякі. Нельга было, аб'явіўшы маральную санацыю ўсяе Дзяржавы, пляваць на Крэсы і на пытаньня меншасьцяў. А па ўсім *фактам*, якія мы дасюль маем, Улада адносілася да Крэсаў ласьне з плявацельнага пункту гледжаньня.

Чатыры месяцы прайшло ад маёвага перавароту і для беларусаў не знайшлося да гэтых часоў ані воднай школы, нават для настаўнікаў скончыўшых урадовыя беларускія курсы ў Вільні і Кракаве. Не знайшлося новых курсаў хаця-б на 100 курсантаў. Не знайшлося ані граша для бядуючых беларускіх гімназіяў. За тое маем зусім адкрыты паход палескага куратара процiў Клецкай гімназіі. Не знайшлося нарэшце для ўсяе беларускае культурнае працы ані граша. Ня чуваць аб самаўрадзе. Ня чуваць і аб парцэляцыі... I вось спакойнае беларускае сялянства, па сваей істоце не прызнаючы комунізму — прэ ў комуністычную Грамаду. Прэ—бо яго туды заганяе роспач. Прэ бо *ня відзіць* іншага ратунку. Прэ—бо думае, што можа гэткім рэвалюцыйным небясьпечным парадкам яно хоць што небудзь здабудзе. Ідзе на пагібель само і наражае на небясьпеку ўсю Дзяржаву. Бо той хто ідзе сам на барацьбу, не пашкадуе і таго, каго ён падужае. Ня поўных 3 месяцы варшаўской безталачы і размоваў далі Заходняй Беларусі 500 гурткоў Грамады! I польскае крэсавае грамадзянства бачыць гэты шалёны рост Грамады. Гэтак і „Kurjer Wileński" і „Slowo" констатавалі небясьпечны рост Грамады, але „Kur. Wil." толькі зьлёгка, а „Słowo" зусім *не падае рэцэпту*, як змагаецца з гэтым злом А рэцэпт зусім просты. Трэба споўніць тыя справядлівыя, уваходзячыя ў рамы польскае конституцыі, жаданьня і патрэбы беларускага народу, якія ён выявіў праз сваю прэсу, праз Зьезд Зах. Беларусі. Трэба быць перад усім прызваітым і шчырым да тых арганізацыяў і групаў беларускіх, праграма і дзейнасьць якіх ня толькі не падрывала падставаў Дзяржавы, але йшла па лініі крэпасьці яе. Бо па адносінам польскага грамадзянства да гэтых групаў — беларускі народ робіць свае вывады і... валіць у Грамаду... Зноў і зноў у 1001 раз скажам: рэформы, шчырасьць і запраўдныя братэрскія адносіны да беларускага насяленьня і ад „Грамады" і іншых пралетарска-бальшавіцкіх партыяў застануцца толькі адны ўспаміны, як аб быўшым кашмары.

I час, даўно ўжо час, каб ад гэтага дзіўнага засьляпеньня польскага грамадзянства прачхнулася.



## Пратэст Беларускай арганізацыі „Прасьвета".

Агульна ведамым фактам зьяўляецца жабрачае істнаваньне беларускай сярэдняй школы. 4 істнуючыя беларускія гімназіі, ўтрымоўваюцца са складок і ахвяр беларускай інтэлігэнцыі і сялянства. Як першая так і другое паміж сябе ня маюць багачоў. А сярод заможнай клясы—мяшчанства — нацыянальна сьвядомага элемэнту мала. I вось у сэнсе матар'яльным гэныя гімназіі стаяць так дрэнна, што па просту дзіўным зьяўляецца тое, што яны працуюць. Але паміма гэтых нязвычайна цяжкіх матар'яльных абставінаў, аграмадную ролю іграюць труднасьці фармальнага характару, якія ўсьцяж ставяцца ўладамі, так школьнымі як і агульна - адміністрацыйнымі. Пры такіх абставінах асьветная праца ў гэтых інстытуцыях адбываецца ў атмасфэры, якую могуць сьцярпець толькі працаўнікі, здольныя на гэройскую ідэёвую ахвярнасьць і безкарыснасьць. Маючы гэта на ўвазе Беларускі Зьезд, які адбыўся ў Вільні 27—28 чэрвеня с. году пастанавіў прасіць улады аб выдаваньні памянёным навуковым установам сталых субсыдыяў. Здавалася-б, што ў часе агульнае санацыі дзяржаўнага жыцьця не павінны б ужо мець месца дасюль практыкаваныя ў адносінах да беларускіх гімназіяў фармалістычныя перасьледаваньні і тамаваньне жабрачага жыцьця гэтых 4-х, з гэткім высілкам утрымоўванных праз грамадзянства навуковых установаў. Ня час і на тасаваньне самаўладзтва цяпер, калі на чале дзяржаўнага ўраду стаіць польская дэмакратыя з вялікім лёзунгам роўнасьці і волі для ўсіх на сваім сьцягу.

Нажаль, відавочна хваля агульнае санацыі яшчэ не дакацілася да нашых нешчасьлівых „Крэсаў". Бо вось надовячы куратар брэскай школьнай вакругі п. Бобка пачаў школьны год з таго, што адмовіў аднаўленьня канцэсіі на вядзеньне Клецкай Беларускай гімназіі канцэсыёнэру — старшыні Т-ва „Прасьвета" А. Якімовічу, выстауляючы старыя вымаганьні характару неістотнага, а чыста фармальнага, пры тым такія, якія некалі, нат урады п. Ст. Грабскага. прызналі за такія, якія можна часова прызнаць неканешнымі да выпаўненьня. Гэты паступак п. Куратара пагражае ліквідацыяй аднэй з 4-х культурных установаў, абслугоўваючай некалькі паветаў Наваградчыны і Піншчыны і стварае небясьпеку вядзеньня культурна-асьветнай працы ў гэткім вялікім раёне.

У гэтай справе Беларускае Таварыства „Прасьвета" зложыла мэмарыял да п. Міністра Асьветы яшчэ ў пачатку г. месяцу і зьмясьціла пратэст у найбольш паважных часопісях польскай дэмакратыі, як „Kurjer Wileński", „Nowy Kurjer Polski" і „Głos Prawdy". Аднак-жа да гэтага часу ані на апінію дэмакратычных органаў польскай прэсы, ані на мэморыял „Прасьветы", відаць, Міністэрства Асьветы ўвагі не зварачвае, бо в. аб куратара п. Бобка ў далейшым працягу робіць перашкоды і нават адмаўляе ў канцэсіі для гімназіі. З гэтых прычынаў Беларуская Нацыянальная Рада салідарна з Беларускім Таварыствам „Прасьвета" зноў рашуча пратэстуе процiў паходу на Клецкую Беларускую Гімназію і зварачвае гэты свой пратэст да шырокіх кругоў Польскай Дэмакратыі.

*А. Паўлюкевіч*
Старшыня Беларускай Нацыянальнай Рады.

*А. Якімовіч*
Старшыня Ураду „Прасьветы".

*Б. Друцкі-Падбэрэскі*
Старшыня Наглядной Рады „Прасьветы".

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Прашу не адмовіць надрукаваць у Вашай газэце ніжэй паданае.

Гэтым даводжу да агульнага ведама, што выходжу з ліку сяброў Беларускага Сялянскага Саюзу.

*Х. Шыбут.*

в. Дунайчыцы, Нясьвіскага пав.
5.-IX-1926 г.

## ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

Як толькі Нямеччына была прынята ў Лігу Народаў, у палітыцы Францыі пачаўся зусім новы кірунак. На другі-ж дзень пасьля дакананьня факту прыняцьця Нямеччыны ў Лігу і Раду Лігі адбылася тайная канфэрэнцыя францускага і нямецкага міністраў заграничных справаў Брыяна і Штрэзэмана ў францускай мясцовасьці Труары на граніцы з Швэйцарыяй. Аб чым была гутарка на гэтай канфэрэнцыі, нікому ня ведама. У газэтах пасьля толькі зьявіліся нататкі паўафіцыяльнага характару, што па ўсім амаль закранутым пытаньням была дасягнута згода. Але ні для каго не зьяўляецца тайнай, аб чым там у цішы без дакучных газэтных карэспандэнтаў ішла гутарка. Нямецкі міністар Штрэзэман вымагаў ад Францыі наступных кампэнсацыяў за Лёкарно і ўваход у Лігу Народаў: скарэйшага звальненьня акупацыйнымі вайскамі Прырэйнскай вобласьці, звароту немцам Саарскай вобласьці, скасаваньня вайскага кантроля над Нямеччынай, уступкі немцам мандата над быўшымі нямецкімі калёніямі і нарэшце зялезна-стальны трэст. За гэтыя уступкі немцы быццам дэкляравалі Францыі фінансавую дапамогу. Невядома, як далёка пасунулася Францыя ў сваіх уступках, на гэтыя прапазыцыі Нямеччыны. Але судзячы па тым, што францускі кабінэт міністраў застаўся задаволяны вынікамі першай безпасрэдняй канфэрэнцыі з немцамі і даручыў Брыяну прадоўжыць далей гутарку, можна сьцвердзіць, што нямецка-французкія адно-

# Канец кабінэтнага крызісу.

У панядзелак 27 б. м. кабінэтны крызіс быў зьліквідаваны.

Аказалася, што п. прэмьер Бартэль перад выездам да Друскенік атрымаў ад п. Прэзыдэнта прапазыцыю ўтварыць кабінэт. Аднак п. Бартэль папрасіў у п. Прэзыдэнта 24 гадзіны адсрочкі, бо хацеў парадзіцца з марш. Пілсудскім.

У новы кабінэт увайшлі ўсе старыя міністры:

Прэмьер — Бартэль, вайсковы — марш. Пілсудскі, унутраных справаў — Млодзяноўскі, скарбу — Клярнэр, заграінчных спраў — Залескі, справядлівасьці — Макоўскі, прамысловасьці і гандлю — Квяткоўскі, чугункі — Ромоцкі, публічных работ — Бранеўскі, асьветы — Суйкоўскі, зямельных рэформаў — Станевіч, земляробства — Рачынскі, працы — Юркевіч.

Новыя міністры злажылі прысягу. Пасколькі Сойм выразіць недаверра да новага кабінэту — магчымы роспуск Сойму і Сэнату.

# Польская крэсовая прэса аб „Грамадзе“.

Пасьля выпуску перасьцярагаючай адозвы Бел. Нац. Рады да беларускага грамадзянства, якая моцна ўдарыла па ўсей бальшавіцкай працы Грамады, органы апошняй — „Беларуская Справа“ і „Народная Справа“ паднялі крык, што Грамада ёсьць арганізацыя *легальная*, што ня глядзючы на сваю выразна комуністычную працу, Грамадзе нішто ня страшна, бо яна мае 20,000 сяброў, (баранаў!) а значыць *усіх* іх у турмы не пасадзіш і г. д. Ведама *усіх* не пасадзяць і застрэльшчыкі паўцякаюць да Бальшэвіі, а нятыкальным паслам нішто ня страшна, бо яны нятыкальныя!— а вот лёгкаверныя дурні, дык тыя могуць надта лёгка апыніцца за рашоткай. І што гэта можа быць, аб гэтым яскрава гавораць артыкулы аб Грамадзе усей крэсовай прэсы, як левага кірунку — „Kur. Wileński“, так і правае „Słowo“.

Гэтак „Słowo“ у № 221 у артыкуле пад загалоўкам „Гурткі“ — бальшавіцкая навала“ — піша:

„Чым ёсьць „Грамада“, якія яна мае мэты, якія хаця не сфармуляваны ў афіцыяльнай праграме, але за тое вядомыя з яе пачынаньняў практычных, хто стаіць на чале — добра ведаем. Закладзеная 2 гады таму праз 5 паслоў з беларускага клюбу яна займае ў Сойме сярэдзіну паміж комуністамі і скрайнімі радыкальнымі сялянскімі групамі. На тэрэне пазапарлямэнтарным „Грамада“ супольна працавала, а цяпер нават зусім зьлілася з групай п. Луцкевіча, з якою супольна апанавала гэтак званы Беларускі Нац. Камітэт. З групаў польскіх найбліжэйшы контакт падтрымлівала „Грамада“ з бальшавіцкай Незалежнай Партыяй Хлопскай з якой заключыла ў апошніх днях саюз для агульнай акцыі на Усходніх Землях. Гэтае паразуменьне адбылася з тых можа прычынаў, што *Грамада і Нез. Парт. Хлопская чэрпаюць натхненьне з аднэй крыніцы*, якая напэўна не ляжыць у граніцах Польшчы. Абедзьве партыі працуюць для аднэй мэты—выклікаць на крэсах сацыяльную рэвалюцыю. У спосабах працы і адна і другая партыі бяруць прыклад з комуністычнай арганізацыі ў Бальшэвіі, гдзе як ведама, апарат агітацыйны зарганізаваны прыкладова а прапаганда даведзена да мастацва і адгэтуль паўстала арганізацыйная адзінка „Грамады“—гурток, які зусім адпавядае паняцьцю ячэйкі.

Грамада добра разумее, што сама арганізацыя, у якой *мамэнт нацыянальны адапхнуты амаль не на апошні плян*, а галоўным чыннікам ёсьць палажэньне сацыяльнае — ня дасьць рэзультатаў, альбо яны будуць нязначныя, пакуль не будзе створана арганізацыя.

Вынікае гэтае выразна з інструкцыі: „Як тварыць арганізацыі Бел. Сел. Раб. Грамады на мейсцах“. Ужо самы загаловак інструкцыі паказвае, з якога абразцу аўтар апрацаваў інструкцыю.

Аказваецца — ўсяго толькі зьменена тэрміналёгія, а рэшта ўсё ўзята як жывое з інструкцыі, як тварыць ячэйкі Р. К. П. (Расейскай комуністычнай партыі. Рэд.) У адным артыкуле няма магчымасьці абгаварыць шырокую акцыю Грамады, якая вядзецца *з няслыханым выдаваньнем грошы, якія плывуць з якіх-та патаемных крыніцаў.* (А „Бел. Справа“ пяе байкі, што ёй „гурткі“ прысылаюць! Рэд.)

Углядзіўшыся ў мэтады працы „Грамады“ можна пераканацца, што *хаця акцыя яе фармальна не пярэчыць абавязваючым правілам, але ў істоце сваей скіравана да патаемных мэтаў, выразна проціdзяржаўных*“.

А вось што піша аб „Грамадзе“ орган дэмократычнай думкі „Kurjer Wileński“ ў № 213 ад 15—IX—26 г.

Як ведама нядаўна арганізаваная *„Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“ — аб'еднала каля сябе ўсе беларускія бальшавізуючыя (скрыта бальшавіцкія. Рэд.) элементы беларускія і проціdзяржаўныя* з дабаўкай групкі опортуністаў (бальшавіцкіх саглашацеляў. Рэд.) ня маючых ніякай ідэі..

Гэтая Грамада разьвіла гарачую працу на беларускіх землях і праводзіць сваю агітацыю і прапаганду ў вобласьці перад усім сацыяльнай рэвалюцыі і за Саветы“.

Далей.

„Калі прымем пад увагу, што паміж „гурткамі“ Грамады і комуністычнымі ячэйкамі трудна знайсьці вялікшую розьніцу — дык уся сур'ёзнасьць палажэньня на землях беларускіх становіцца нам прад вачыма.

У сьвеце гэтага зьявішча робяцца зразумелымі некаторыя, надта ўжо „па грамадаўскі“ радыкальныя пункты ў партыйных праграмах памянёных партыяў (рэч ідзе аб Беларускіх Хадэках і Сельсаюзу. Рэд.), бо, дзякуючы безупыннай дэмагогіі Грамады, найбольш разважныя галасы не знайшлі-бы належнага пасьпеху сярод здэмаралізаваных масаў сялянскіх, з якіх прычынаў, гэтыя партыі, *каб зусім* не пагубіць сваіх уплываў на вёсцы—змушаны выступаць з лёзунгамі многа больш радыкальнымі, чым тыя, якія фактычна адпавядалі іх імкненьням“.

Зусім згаджаемся з вывадамі п. Смрэчынскага. Але лічым, што вясьці барацьбу проціў дэмагогіі зноў-жа дэмагогіяй і не этычна і не ідэйна. На сёньняшнія разгарачонныя сялянскія галовы трэба ліць халодную ваду, але не падкідаць агню.

Вывад „Kur. Wileński“ робіць гэтакі.

„Як бачым з вышэй паданага, на нашых вочах разрастаецца яскрава проціdзяржаўная і варожая арганізацыя, якая абматывае сваей сеткай вялікую плошчу нашых Крэсаў Усходніх“.

Гэткім чынам, мы бачым, што дзьве найбольш паважныя крэсовыя газэты *рожных* кірункаў зусім аднолькова ахарактэрызавалі *„Грамаду“, як арганізацыю бальшавіцкую і проціdзяржаўную.* Дык мы яшчэ раз папераджаем усіх тых, хто лезе на ашуканчыя і хсьцівыя словы Грамады, каб ня верылі бальшавіцкім наймітам, якія чэрпаюць для сябе даляровае „натхненьне“ ад бальшавікоў, а для сялян гатуюць турму, зьнішчэньне гаспадаркі, сьлёзы сямьі і губяць усю беларускую справу.

# У ССРР.

## Вось дык „эканомія“!

У апошнія часы ўся бальшавіцкая прэса аж гудзе прызываючы да эканоміі, да больш асьцярожнага выдаваньня „народных грошай“. Як гэтая „эканомія“ праводзіцца ў жыцьцё вельмі добра малюе карэспандэнцыя з Лельчыцкага раёну, зьмешчаная ў № 207 менскай газэты „Звезда“. Вось гэтая карэспандэнцыя: У Стадолічах няма школы, а ў Лельчыцах — вэтэрынарнага пункту. На абедзьве патрэбы адпушчаны грошы. У Стадо-

# ПРАКАНАУСЯ

(*Малюнак з жыцьця*).

Вось вы мне будзеце яшчэ казаць. Эх, моладзь! даўней ня так было. Людзі верылі ў Бога, ды і ведалі, што такое ёсьць чорт, а нават іншыя і бачылі чарцей, ды і шмат яшчэ чаго. Я ўжо забыўся тое ўсе, падумайце самі колькі гадоў ужо прайшло, а што чарта бачыў,—дык гэта памятую добра і чарта такога, які ён ёсьць.

— Вось як? адазваўся я, — а можа дзед скажаш нам?

— Чаму-ж не расказаць, магчыма, толькі спачатку закуру. І выцягнуўшы люльку з кішані дзед пачаў набіваць яе тутуном, а потым разпыкаўшы яе і добра зацягнуўшыся, пачаў свой сказ.

Гэта, мае даражэнькія, было даўно, гадоў можа семдзесят а мо і болей, ня памятую добра; пайшоў я, ведаеце, з пляменнікам у лес грыбы зьбіраць. Набралі мы поўныя кошыкі і ўжо варочаліся да хаты, але прыйшлося нам ісьці ля возера невялікага, але балотнага і з невялічкай выспай пасяродку.

Нейкі жах браў мяне, бо старыя людзі казалі, што ў гэтым возеры здаўна сядзіць нячыстая сіла і бяз крыжа не праходзь — бо згінеш. Але што рабіць,—мусіў ісьці, бо іншай дарогі нябыло.

Вось падыходзім мы да гэтага возера бліжэй, нічога. Агледзіўся я назад, а потым ізноў зірнуў на возера ды так і абмёр. Тут толькі што глядзеў і нікога ня было, а цяпер сядзіць пасяродку ў балоце чалавек, у вопратцы нямецкай, шырокім капелюху на галаве, гэткі ведаеце паджары сабе, сядзіць і водзіць па паветры нейкім чарпаком на палцы, водзіць быццам ловіць нешта і бармоча штось скалячы зубы, а потым як пачаў скакаць, ды рагатаць, дык аж балота ляцела камамі вокал яго, а пад намі, дык зямля стагнала.

Вось, думаю сабе, чартоўская моц, яшчэ падайдзе зараз да нас, ды і ўцягне ў балота... Толькі гэта я так падумаў, а ён ужо каля берага апынуўся, пераляцеў праз ваду як пярун і на сухое мейсца лезе.

Забыўся я і пераджагнацца, забыўся і пра кошыкі з грыбамі а ухапіўшы пляменніка, давай уцякаць, але адбегшы добры кавалак, агледзіўся, а ён гэты чорт, стаіць на мейсцы і рагоча, трымаючы кошыкі з грыбамі ў руках.

Шкада мне стала кошыкаў і грыбоў і думаю: што пякельная моц трымала ў руках кошыкі з грыбамі, гэта нічога, есьці можна. Пачаў я тады жагнаць Святым Крыжам яго, ды шаптаць пацеры ад нячыстай сілы, а чорт неяк зморшчыўся ды і пачаў неяк хістацца, быццам зноў скакаць, але ўжо ня так як у балоце, ведама пачуў Боскую моц, а потым як кіне мой кошык з грыбамі, ды скочыў у балота і згінуў. Вельмі шкада, што з ім я не пагаварыў, цікава чаго ён да мяне лез, дрэннага зрабіць ён нічога мне ня мог, бо ведаеце, што крыж ад чарта, гэта першы ратунак, але было ўжо позна, чорт уцёк у балота і я пайшоў дамоў.

— Дзед, адазваўся мой сябра, а які твар быў у гэтага чарта.

— Які там табе твар, чы-ж можа быць у чарта твар, морда такая, ведаеш як бывае ў чарцей.

— Я і мой таварыш ледзьве ўтрымліваліся ад сьмеху, але ня хочучы абразіць гэтым старога Язэпа, усёжтакі ўстрымаліся, а я кажу дзеду:

— Дзядуля, а можа гэта хто кольвек так быў, можа гэта ня чорт?

— Я ж не пьяны быў, скрыўджаным тонам адазваўся дзед, і магу адрожніць чарта ад чалавека, а пры гэтым я ні адзін раз бачыў чарта, і другі раз было такое здарэньне.

— Што дзядуля, ці-ж яшчэ бачыў чарта, спытаўся мой сябра?

— А то як-жа, вядома, толькі ў другім мейсцы, а было гэта так.

Не памятаю адкуль гэта я ішоў, а ісьці трэба было праз лес. Ноч была цёмная.

Вось іду я і шапчу пацеры, а тут як на грэх, насунулася воблачка, пачала блісьцець маланка і біць пяруны ды і дождж паліўся. Падыйшоў я пад вялікую сасну, думаю вось тут перачакаю пакуль дождж пройдзе, стаю і дрыжу ад страху, неяк ведаеце жудасна было. Раптам нехта ў вуха мне шэпча, сьвісьні, хутчэй, сьвісьні!

Паглядзеў, німа нікога, а ўсё слышу сьвісьні ды сьвісьні. Тут я зразумеў, што нячыстая сіла лезе да мяне і думаю.

— Не брат, не сьвісну.

— А вот сьвісьні, зноў пад вухам нехта шэпча.

— Брэшаш антыхрыст — ня сьвісну,—і пачаў жагнацца, а каб ня было саблазну, адыйшоў ад сасны і толькі ступіў колькі шагоў, а пярун як трэсьне ў сасну, дык толькі пасыпаліся кавалкі і сасны як ня было.

Прайшла хмара, ізноў стала ціха і я хутчэй пайшоў дамой. Але нядоўга так прыйшлося ісьці. Як раз насупраць ў мяне нешта замігала. Прыглядаюся і бачу, што сярод лесу стаіць стол, на якім гараць пастаўленыя чатыра сьвечкі, а вокал стала сядзіць чатыры чалавекі. Падыйшоў бліжэй і бачу, што ўсе яны ў вопратках нямецкіх, без капялюхоў, з сабачымі мордамі і гуляюць у карты.

— Пікі, кажа адзін нейкім магільным голасам.

— Добра, гуляй! адказаў другі і зноў усё сьціхла.

— Згінь мара, прападзі ты пякельная моц,— жагнаючы сябе прагаварыў я.

Чэрці зарагаталі на ўвесь лес, але бачу, што столік быццам далей адсунуўся. Тут я апамятаваўся і ну давай жагнаць тое мейсца, дзе стаяў столік. Заскавычэлі тут яны, сьвечкі раптоўна пагаслі, падняўся нейкі гул па лесе і ўсё зьнікла.

Апанаваў ізноў мяне страх і пусьціўся я на ўцёкі, і сам няведаю куды і апамятаваўся толькі тады, як ўбачыў нейкую вёску, у якой і пераначаваў.

Дык вот хлопцы, кончыў сваю гутарку дзед, гэта ўсё буду памятаваць я аж да сьмерці і будзьце пракана ны, што як толькі пабачыце чалавека ў вопратцы нямецкай і капелюху, дык гэта і будзе нячыстая сіла, я-ж як пабачу такога хоцьбы нават і цяпер, зараз жа жагнаю, бо не інакш як гэта ёсьць сам чорт. ***К.***

Кажан-Гарадок. 24.-І 1925 г.

лічах ёсьць вялікі дом, зусім прыгодны пад школу. Але яго разьбіраюць і перавозяць у Лельчыцы, дзе ў гэтым будынку мае быць адчынены вэтэрынарны пункт, а ў Стадолічы возяць лес на будоўлю школы.

Ад Стадоліч да Лельчыц 20 вёрст, а лес прыходзіцца вазіць за 30 вёрст... Гэта робіцца ў мэтах эканоміі... Далей: у Лельчыцах малае памяшчэньме пад сямігодку. Патрэбна дабудова. Дабудавалі. Але страха павінна быць агульнай. І вось перш чым паняць крытцоў — раскідалі над старым памешканьнем страху, а потым пачалі шукаць крытцоў і таргавацца з імі. Райспаўком „бароначы" інтарэсы эканоміі таргаваўся аж яго сем пат ў прабрала. І вытаргаваў аж 24 рублі. А пакуль йшоў гэты торг — будынак стаяў пад раскіданай страхой. Дажджы размылі тынкаваньне, якое адстала ад сьценак. І за рамонт гэтага тынку прыйшлося заплаціць — 130 руб. „Рахунак" — канчае карэспандэнт — „просты". Чаго прасьцей! А ўсё-ж-ткі эканомія мелася на мэце і аб гэтым напаўне было ня мала сьпісана паперы...

Нічога сабе „абаронцы" інтарэсаў „працоўных"?

## Жыдам—зямлю, беларусам—Сыбір.

Па данным газэты „Звезды" (№ 207) пад самым горадам Менскам, у прадмесьцях Камароўка адведзены і адданы 21 жыдоўскай сямье 105 дзес. зямлі. Калёністыя арганізавалі два пасёлкі „Комзэтаўка" і „Гофнунг".

Крыху ніжэй тая-ж газэта падае іншую нататку. „У окрземадзеле" атрымана 300 заяваў беззямельных і малазямельных сялян—беларусаў аб... высяленьні ў Сібір і на Далёкі Усход, бо на бацькаўшчыне яны ня могуць атрымаць зямлі і няма з чаго жыць... „Пакуль што" — піша газэта „перасялілі 83 сямьі".

Вось як „работніцка-*сялянская*" ўлада руліцца аб сялянах. Зямля, ды яшчэ пры самым горадзе — жыдам, а сялян — у Сыбір, бо „зямлі ім ня машака"... І ці-ж ня прыемнай для вуха шчырага комуніста назоў гэткі „Гофнунг" заместа неякай там „Камароўкі"!? Эх, паны грамадаўцы! Куды вы ідзеце, куды зварочваеце?

## Як выглядае „беларусізацыя.

Бальшавікі, а асабліва іхнія прыслужнікі, жывучыя за межамі СССР. з захопленьнем цьвярдзяць сьвету аб „дасягненьнях у вобласьці нацпалітыкі". Па іх хвасьлівым „данным" выходзіць, што і Украіна і Беларусь—карыстаюцца з поўных нацыянальных правоў і зьяўляюцца зусім нацыянальнымі гаспадарствамі. Вельмі многа была зроблена гвалту аб пераходзе на Беларусі і Украіне ўва усіх установах на беларускую і украінскую мовы. Па афіцыяльным бальшавіцкім данным — гэткая беларусізацыя і украінізацыя праведзяны амаль не цалком. Тымчасам запраўды справа абстаіць далёка ня так. У ёй, як і ўва ўсім, што робяць бальшавікі — іх пахвальба далёка адбягае ад таго, што ёсьць сапраўды. Беларусізацыя на паперы праведзена, але ў жыцьці як было так і застаецца засільле маскоўскіх культуртрэгераў, якіх Масква высылае на „акраіны" для ўтрыманьня болей цеснага кантакту, а запраўды—ў мэтах русіфікацыі Як абстаіць справа фабрыкаваньня афіцыяльных „данных" аб „дасягненьнях" на беларусізацыі вельмі ярка малюе карэспандэнт менскай газэты „Звезда" ў № 207 гэтае часопісі Вось гэтая карэспандэнцыя з м. Талочына, надрукавана пабеларуску: „Знаёміўся загадчык раёну і загадчык палітасьветы як ідзе беларусізацыя па ўстановах мястэчка. Зайшлі і ў райпрафбюро. Зайшлі — дый зрабеце ласку: а дзе вашыя справы? пытаюцца рэвізоры.

— Зараз, зараз пакажу, адказвае сэкрэтар.

Тоўстыя „справы" і кнігі выходзячых і ўваходзячых папераў зьяўляюцца на стале. Пачынаецца абсьледаваньне.

— Ага, ага. Заместа—паседжаньне напісана „заседание", Так, запішы, браток, што тут? паседжаньне... раз... два...

І вось такім чынам налічана было 30% беларусізацыі.

Ды што вы? пачаў пярэчыць сэкрэтар: накіньце што-колечы. Ну, хай будзе 50 працэнтаў?

— Не, больш я не магу, кажа загадчык раёну.

— Слухайце, каб усё была перакладзена на беларускую мову, інакш— кепска будзе, пагражае камісія.

А выходзячы — згаджаюцца на просьбы сэкрэтара паказаць у адчоце—50% беларусізацыі...

„Вось дык абсьледавацелі! Вось дык беларусізацыя"! Гэтак канчае сваю нататку карэспандэнт "Зьвязды".

Але,—скажам і мы. Аднак гэта не перашкаджае нашым тутэйшым служкам комінтэрну расхваліваць „рай" і „дасягненьні" бальшавікоў па нацпалітыцы...

## Комунікат Прэзыдыуму Беларускай Нацыянальнай Рады.

На мейсца выбыўшага са складу Бел. Нац. Рады аднаго з віцэпрэзэсаў Рады п. Аляхновіча, увайшоў у склад Рады, выбраны Зьездам Заходняй Беларусі п. Нікадым Кернажыцкі. Гэткім чынам склад Рады ў ліку 7 сталых сяброў — паводле пастановы Зьезду — зноў у комплекце.

*Прэзыдыум Рады.*

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

**Выхад п.п. А. Паўлюкевіча, Якімовіча і Шыбко з „Беларускай Хаткі.** Паўлюкевіч, Якімовіч і Шыбко выйшлі са складу „Беларускае Хаткі".

**Шпіонская афэра.** На апошнім тыдню палітычная паліцыя выкрыла вялікую ды добра арганізованую шпіёнскую шайку. Гэтая арганізацыя гняздзілася ў Віленскай чугуначнай дырэкцыі. На чале арганізацыі стаяў нейкі Сычэўскі, які служыў у мабілізацыйным аддзеле чыгуначнае дырэкцыі. Працавала гэтая шайка на карысьць бальшавікоў. Арыштавана больш за 10 чалавек.

**Барацьба са спэкуляцыяй.** Віленская Ізба Скарбовая наказала скарбовым касам прымаць ад платнікаў падаткаў залатыя і срэбныя расейскія рублі, па найвышэйшаму курсу, устаноўленаму Міністэрствам Скарбу. Манэты гэтыя будуць прымацца пры ўплаце ўсялякага роду скарбовай належнасьці.

Робіцца гэта з мэтай абараніць насяленьне ад розных спэкулянтаў, якія скупляючы манэты, ашукваюць сялян.

**Выбары да Рады Касы Хворых.** З прычыны надыходзячых выбараў да Рады Касы Хорых у Вільні, усе партыі павялі шалёную агітацыю. Так у мінулую нядзелю ня было ні воднае салі, дзе ня было-б мітынгу.

**„Грамада" злучылася з N. P. Ch.** „Kur. Wileński" падае сэнсацыйную вестку аб злучэньні „Беларускае Сялянск.-Раб. Грам." з Н.П.Х. (Niezależna Partja Chłopska). Злучаныя партыі выдалі цэлую масу адозваў, заклікаючы да барацьбы з „панскай уладай".

„Грамада" нарэшце паказала свой праўдзівы твар. Але цікава адно: як цяпер „Грамада" будзе змагацца з польскасьцю. Пэўне-ж калегі з NPCh. не дапусьцяць гэтага. Але трэба было-б адкінуць цяпер назоў „Беларуская Грамада". Бо яшчэ раней у рады Грамады ўвайшлі жыдоўскія комуністы, цяпер комунізуючыя палякі —дык пры чым тут Беларусь. Адным словам задалёка заехаў прафэсар Тарашкевіч.

„Słowo" паведамляе, што NPCh. маніцца выдаваць тыднёвік у расейскай мове. А як з гэтым пагодзіцца праф. Тарашкевіч.

**Расейскія даўгі.** Польскія газэты зьмясьцілі паведамленьне датычачае старых расейскіх даўгоў. Усе хто мае кніжкі „Сберегательной Кассы", або „Военный заем", або яшчэ нейкія цэнныя паперы, павінны зьвярнуцца да „Głównego Urzędu Likwidacyjnego", Warszawa, ul. Foksal N 3, але не пазьней 1 студня.

**Юбілей Чэслава Янкоскага.** 2 кастрычніка сёлетняга году спаўняецца 50 гадоў ад пачатку літэратурна публістычнае дзейнасьці Чэслава Янкоўскага. У гэты дзень адбудзецца банкет ды ўручэньне юбіляру адрэсу.

**Пажар мястэчка.** У нядзелю ад невядомае прычыны пачаўся пажар у м. Варонаве. Мейсцовая пажарніцкая дружына не здалела ліквідаваць вагонь. Убыткі дасягаюць 100,000 зл.

## Юрыдычныя парады.

ПАДП. С. К-МУ. Запытаньне. Праз некалькі ўжо пакаленьняў мая фамілія ўладала вучасткам зямлі ў 29 дз. з маёнтку С. Пры гэтым згодна з дакумэнтамі (першы з 1745 г.) зямля гэта лічылася чыншавой. Перад вайной, ня ведаю з якой прычыны мой памёршы ўжо бацька зрабіў на гэтую зямлю арэндную ўмову на 12 гад. Кантракт быў заверены ў гміне. У наступным 1927 г. канчаецца тэрмін гэтага кантракту і ўласьнік ужо заявіў мне, каб я рыхтаваўся пакінуць гэтую зямлю. Разам з зямлей ён хоча забраць і нашыя дзядоўскія будынкі. Ці можа ён высяліць мяне і што рабіць, каб абараніцца?

Адказ: З моманту пераходу ўладаньня вашага ўжо на падставе кантракту. калі гэты кантракт па свайму зьместу ўстанаўлівае толькі чыста арэндныя адносіны без агаворак аб чыншавым характару гэтага карыстаньня зямлёй,—вы маеце на зямю толькі тыя правы, які кантракт дае як па вялічыне правоў, так і ў адносінах да тэрміну. І дзеля гэтага вашае далейшае карыстаньне утраціўшы характар чыншавога, будзе цалком залежыць ад волі ўласьніка. Адзіным выхадам для вас ёсьць — хадатніцтва аб выкупе гэтага вучастка. Пры даных варунках вашыя правы на выкуп будуць прызнаны як даўгалетнему арандару. Зьвярніцеся да адваката, (не да якога небудзь пісара просьбаў) і пачынайце справу.

ПАДП. У Ч-КУ. Запытаньне. Два тыдні таму мяне арыштавалі, пратрымалі няма ведама за што 2 дні на пастарунку і пасьля звольнілі кажучы, што арыштавалі па абмылцы. Ці я магу жаліцца, бо надта-ж ужо дапяклі мне рознымі „падазрэньнямі". Усьцяж цягаюць то за тое, то за сёе.

Адказ: Можаце. Падайце жалабу пракурору Акружнага Суда з просьбай пацягнуць да адказнасьці віноўнага ў пратрыманьні вас. Справа ў тым, што паліцыя ня можа без дапросу і сфармулаваньня нейкага абвінавачаньня трымаць пад арыштам болей 24 гадзін, у працягу якіх павінны зьняць дапрос і перадаць арыштаванага сьледавацелю.

ПАДП. З. Х-КУ. Запытаньне: Яшчэ да вайны цэлым таварыствам была куплена зямля з пад Банку. Яе падзялілі на калёніі, аднак у шахаўніцы. У пазалеташнім годзе мы перайшлі на хутары. У мінулым годзе вясной памёр мой бацька. Калёнію нашую мы: я, 2 браты і швагер падзялілі і такжа хутарамі. У гэтым годзе мы пасправаліся са шваграм і вось ён забараніў мне езьдзіць праз яго зямлю да майго кавалку поля. (Трэ' адзначыць, што будынкі тымчасам мы маем усе супольныя, новых сабе яшчэ не пабудавалі). Без дарогі я абайсьціся не магу, бо няма як дастацца на поле. Ці маю я права трэбаваць. каб швагер даў мне дарогу?

Адказ: Швагер як сумежны ўласьнік павінен даць праезд праз свой вучастак да вашага. Калі не дае добравольна — падайце ў Суд. Суд швагра змусіць даць дарогу.

## Чытайце і пашырайце роднае слова!

## Прачытаўшы газэту—перадай яе суседу!

## АД РЭДАКЦЫІ

З ПРЫЧЫНЫ ПАВЫШЕНЬНЯ АПЛАТЫ ЗА ПЕРАСЫЛКУ А ТАКСАМА ДЗЕЛЯ ЦЯЖКІХ МАТЭР'ЯЛЬНЫХ ВАРУНКАЎ ПАДПІШЧЫКАМ „БЕЛАРУСКАГА СЛОВА" не прыслаўшы падпісной платы ВЫСЫЛКА БУДЗЕ СПЫНЕНА. ДЗЕЛЯ ГЭТАГА, ХТО І НАДАЛЕЙ ЖАДАЕ АТРЫМЛІВАЦЬ „БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА" НЯХАЙ ЯК НАЙХУТЧЭЙ ПАРУПІЦЦА З ПРЫСЫЛКАЙ ПАДПІСНЫХ ГРОШЫ.

РЭДАКЦЫЯ.





Адказны Рэд. Т. Верніcoўскі. Druk. NOWOCZESNA w Wilnie, Biskupia 12. Выдав. Бел. Нацыянальная рада.